# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 13 (48) | 15-га Снежня 1930 году | № 13 (48)




## ЗЬМЕСТ



Зацьверджана прэзыдыумам ЦК, пратакол № 114, узгоднена з УсеЦСПС.

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## аб працы вытворчых нарад у саўгасах.

Разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва патрабуе караной перабудовы форм і мэтадаў і зьместу работы вытворчых нарад.

Зьяўляючыся аднэй з асноўных форм работы прафсаюзаў па ўцягненьні рабочых мас у сацыялістычнае будаўніцтва, і выхаваньняновых кадраў арганізатараў сацыялістычнай рэканструкцыі, прасьледуючы мэту ўсямернай арганізацыі сіл, актыўнасьці і вытворчай ініцыятывы рабочых для прысьпяшэньня тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва саўгасаў, для выкананьня перавыкананьня прамфінпляну на кожным прадпрыемстве саўгасаў, вытворчыя нарады павінны абапірацца ў першую чаргу на ўдарныя брыгады.

Ударная брыгада павінна стаць першаістай ячэйкай уцягненьня рабочых ў кіраўніцтва вытворчасьцю і сьцержанем работы вытворчых нарад.

Усямернае разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва руху „асноўная задача вытворчых нарад."

### I. Арганізацыйная пабудова вытворчых нарад у саўгасах.

Вытворчыя нарады ў саўгасах арганізуюцца:

а) групавыя ў кожнай першаістай вытворчай групе рабочых, у кожнай ударнай брыгадзе, аб'яднанай адным вытворчым заданьнем (трактарная брыгада, калёна, асобны цэх рамонтных майстэрняў, групы на скотных дварах, канюшні, агароды, плянтацыі і г. д.);

б) зьменныя цэхавыя, вучастковыя (хутарскія) і галіновыя вытворчыя нарады;

в) агульна-саўгаскія вытворчыя нарады;

1. Групавыя вытворчыя нарады зьяўляюцца асноўным зьвяном ва ўсей сыстэме В.Н. саўгасаў;

2. Цэхавыя, вучастковыя, хутарскія і агульна-саўгаскія вытворчыя нарады зьбіраюцца па меры патрэбы па пытаньнях агульна-вучастковага, агульна-хутарскага і саўгаскага значэньня.

УВАГА 1. У саўгасах з вялікім разьмерам вытворчасьці і большасьцю рабочых заместа агульнасаўгаскіх вытворчых нарад склікаюцца агульнасаўгаскія вытворчыя канфэрэнцыі.

2. Для працуючых у праўленчым апараце саўгас-кіраўніцтваў, канторах, а таксама ў вучастковых, хутарскіх канторах, арганізуюцца эканамічныя нарады на тых-жа прынцыпах, што і вытворчыя нарады.

3. У вытворчыя нарады ўцягваюцца на аснове добраахвотнасьці ўсе рабочыя, работніцы і адміністрацыйна-тэхнічны пэрсанал, працуючы на даным вучастку, хутары, цэху, брыгадзе, калёне і г. д..

## II. Зьмест работы вытворчых нарад у саўгасах.

Вытворчыя нарады:

а) арганізуюць практычныя мерапрыемствы па разьвіцьці і ўзмацненьні сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарнага руху, арганізуюць новыя ўдарныя брыгады і ўцягваюць у іх рабочых, работніц і спэцыялістых, правераюць і абгаварваюць вынікі работы ўдарнікаў, аказваюць дапамогу і садзейнічаньня ім у зьнішчэньні канкрэтных недахопаў у працэсе вытворчасьці і ў працы саміх ударнікаў, накіроўваюць увагу і арганізоўваюць работу ўдарнікаў і ўсіх рабочых на ўсямернае палепшаньне вытворчых працэсаў і выкананьне прамфінпляну.

б) Арганізуюць работу па давядзеньні прамфінпляну да вучастку, брыгады, групы і асобнага рабочага і ўдзельнічаюць у складаньні сустрэчнга прамфінпляну па брыгадзе, вучастку, цэху і саўгасу ў цэлым, уносячы ў гас-орган распрацаваныя прапановы на аснове паказаньняў рабочых;

в) Ажыцьцяўляюць кантроль за ходам выкананьня вытворчага заданьня і прамфімпляну па брыгадзе, цэху, вучастку і па саўгасу ў цэлым, абгаварваючы вынікі выкананьня вытворчых заданьняў і прамфінпляну (па месячна, па квартальна, па кампаніях, сэзонах), дапамагаюць арганізацыі сыстэматычнага вучоту вынікаў выкананьня прамфінпляну, спаборніцтва і ўдарніцтва і правераюць вынікі сацспаборніцтва і ўдарніцтва на аснове канкрэтных мерапрыемстваў арганізуюць рабочых для ліквідацыі выявіўшыхся ў выкананьні пляну, прарываў і вузкіх мес[ц]
у вытворчасьці;

Прапрацоўваюць і правераюць мерапрыемствы саўгасаў па правядзеньн[і] суцэльнай калектывізацыі ў вакольных саўгасаў вёсках і ліквідацыі кулака, як клясы, узмацненьню існуючых калгасаў падрыхтоўкі да суцэльнай калектывіза[цыі] цыі па-за зернавымі раёнамі;

г) Прапрацоўваюць і правераюц[ь] выкананьне пляну вытворчай дапамог[і] калгасам, выкананьне дагавору з калга[с]амі абодвымі бакамі (пры наяўнасьці [у] дагаворы абавязацельстаў прадстаўлень[ня] калгасам рабсілы саўгасам машын) арганізуюць брыгады: а) па дапамозе ў калектывізацыі вакольных саўгасаў вёсак б) па дапамозе ў рабоце калгасаў (скла[д]аньне вытворчых плянаў-пытаньні арга[]нізацыі працы);

д) Распрацоўваюць мерапрыемствы па рацыяналізацыі вытворчасьці і лепша[й] арганізацыі працы на вучастку, у цэхе [і] г. д. Арганізуюць з рабочых ударнікаў групы рацыяналізатараў і ўносяць гас органу свае прапановы па пытаньнях палепшаньня работы вытворчасьці (ба[]рацьба з бракам, стратамі, за эканомі[ю] гаручага і змазачнага матар'ялаў, леп[]шай арганізацыі па збору адработаны[х] маслаў у машынах і здачу іх для пера[]працоўкі, паляпшэньня якасьці вытвор[]чага забесьпячэньня, палепшаньне якась[]ці работы с/г машын, прадукцыі, палеп[]шаньне якасьці работы с/г машын арудзьдзяў с./г. інвентару, транспарту палепшаньне аховы працы і г. д.

е) Аказываюць усялякую дапамог[у] ў разьвіцьці вынаходства. Вядуць бар[а]цьбу з валакітай у распрацоўцы і пр[а]соўваньні прынятых вынаходак і ўдаска[]наленьняў. Арганізуюць кантроль на

ваечасовым правядзеньнем у жыцьцё сіх прапаноў рабочых вынаходак. Аказваюць дапамогу ў арганізацыі і афарленьні гурткоў і рабочым вынаходцам.

ж) Аказваюць дапамогу ў правязеньні і ўзмацненьні адзінаначальля на радпрыемстве. Арганізуюць у дапамогу іраўніцтву саўгасу часовыя кантрольныя рыгады з ударнікаў для праверкі выкананьня распараджэньняў адміністрацыі, к агульна-саўгаскіх, так і па асобных аботах.

з) Арганізуюць збор прапаноў рабоых па паляпшаньні вытворчасьці сыстэатычна ў кожнадзённай рабоце і арганізуюць часовыя кантрольныя брыгады а праверцы выкананьня гэтых прапаноў боку адміністрацыі.

і) Абгаварваюць і вылучаюць каныдатуры з лепшых рабочых ударнікаў а гаспадарчую работу (у органы рацыяалізацыі, вынаходства і інш.).

### I. Парадак і мэтады работы вытворчых нарад.

1) Групавыя і брыгадныя вытворчыя арады павінны працаваць рэгулярна ьбіраючыся ў цьвёрда ўстаноўленыя ля вытворчых нарад календарныя тэрміны. У экстрэным выпадку групавыя і рыгадныя вытворчыя нарады могуць ыць скліканы ў любы час. Цэхавыя і участковыя вытворчыя нарады зьбіраюца па меры патрэбы, але не радзей днаго разу ў месяц. Агульна-саўгаскія ытворчыя нарады ці канфэрэнцыі—не адзей аднаго разу ў 2 месяцы.

2) Для падрыхтоўкі пытаньняў да ытворчых нарад пры іх арганізуюцца з іку ўдарнікаў і актыўных удзельнікаў вытворчых нарад часовыя групы па вычэньні асобных пытаньняў: барацьба а стратамі ў вытворчасьці, унутрысаўаскае снабжэньне, рэалізацыя прадукцыі ернявой, тэхнічнай, малочнай, мясной і нш.), вывучэньне прычын вытворчых рарываў на асобных вучастках, цэхах, рупах рацыяналізацыі вытворчасьці і г. д.

3) Ва ўсіх неабходных выпадках для равядзеньня пытаньня найбольш складанага характару, вытворчыя нарады рганізуюць ЧКК з агульна-саўгаскім ці участковым, цэхавым маштабам работы, аслабаненьнем членаў ЧКК ад работы а вытворчасьці на час выкананьня ўскладзеных на іх абавязкаў, згодна палажэньня аб ЧКК.

### IV. Кіраўніцтва работай вытворчых нарад.

1) Агульнае кіраўніцтва работай вытворчых нарад на прадпрыемствах у саўгасах ажыцьцяўляюць рабачкомы на вучастку-вучастковыя камітэты, у цэхе-цэхкамітэты. Для практычнага кіраўніцтва работай вытворчых нарад на чале кожнай вытрорчай нарады-агульна-саўгаскай, вучастковай і цэхавай вылучаюцца з ліку лепшых ударнікаў арганізатары вытворчых нарад, на якіх ускладаецца ўся вытворчая работа вучастковага, цэхавага ці агульна-саўгаскага рабачкому. Для кіраўніцтва брыгадамі, групавымі вытворчымі нарадамі, вылучаюцца арганізатары вытворчых нарад з складу ўдарнікаў першаістай вытворчай групы брыгады. Кіраўнік ударнай брыгады павінен адначасова зьяўляцца арганізатарам вытворчай нарады брыгады.

2) Брыгадныя і групавыя арганізатары вытворчых нарад працуюць пад непасрэдным кіраўніцтвам вучастковых, цэхавых і іншых арганізатараў вытворчых нарад. Арганізатары вытворчых нарад пры цэхавых, вучастковых і агульна-саўгаскіх камітэтах склікаюць пэрыядычныя нарады групавых і брыгадных арганізатараў вытворчых нарад для накіраваньня іх работы, абагульваньня вопыта, абгаварэньня пытаньняў пляну і агульных пытаньняў работы.

3) Арганізатары вытворчых нарад падрыхтоўваюць абвестку дню вытворчай нарады, арганізуюць скліканьне вытворчых нарад, кіруюць іх правядзеньнем, перадаюць прапановы рабочых і вытворчых нарад адміністрацыі і кантралююць іх выкананьне.

4) Арганізатары (старшыні) агульна-саўгаскіх вытворчых нарад у буйных саўгасах, зьяўляюцца адначасова пам. дырэктараў па выкананьні рабочых прапаноў на прадпрыемствах па асобна ўстаноўленым сьпісу, у вядзеньні якіх знаходзяцца бюро рацыяналізацыі. Там, дзе пам. дырэктараў няма па працы вытворчых нарад гэту працу выконваюць арганізатары вытворчых нарад пры рабачкомах і ажыцьцяўляюць яе непасрэдна праз рабочы камітэт.

5) Арганізатары вытворчых нарад ня могуць даваць апэрацыйных распараджэньняў апрача адміністрацыйна-гаспадарчага пэрсаналу саўгасу, а ўсе патрабуючыя вырашэньня пытаньні ставяцца перад адміністрацыяй непасрэдна праз рабочы камітэт. Арганізатары вытворчых нарад пам. дырэктараў дзейнічаюць на аснове палажэньня аб пам. дырэктараў.

### V. Кантроль за выкананьнем рабочых прапаноў.

1) Арганізатары вытворчых нарад арганізуюць прыток рабочых прапаноў па палепшаньні вытворчасьці ня толькі ў час ходу вытворчай нарады, але і кожнадзённа ў бягучай працы саўгасаў.

2) Прапановы рабочых, паступаючыя ў бягучым парадку, ідуць да арганізатара вытворчых нарад і перадаюцца ім непасрэдна адміністрацыі (вучастку, цэху, брыгады, групы) без пастаноўкі на вытворчых нарадах у тым выпадку, калі не патрабуецца спэцыяльнага абгаварэньн прапаноў.

3) Вытворчыя нарады арганізуюць перыядычна часовыя кантрольныя брыгады для праверкі выкананьня прапаноў ставяць пытаньне аб прыцягненьні д адказнасьці асоб, вінаватых у невыкананьні прынятых прапаноў, кіруючыся даным выпадку інструкцыі СНК ССС ад 31/VIII-29 г., абавязваючай гасорганы да сваечасовага выкананьня рабочы прапаноў.

4) Вытворчыя нарады арганізуюць выкананьне сіламі рабочых тых сваі прапаноў, якія не патрабуюць адміністрацыйнага распараджэньня, а залежаць ад саміх рабочых, даючы канкрэтныя заданьні ўдарным брыгадам, накіраваныя да лепшага выкананьня вытворчага заданьня, падняцьцю вытворчасьці працы зьменшаньню брака, палепшаньню якасьці прадукцыі і зьніжэньні сабекошту.

Узгоднена з НКЗемам СССР і ЎсеЦСП

## ПАЛАЖЭНЬНЕ

### Аб правох і абавязках пам. дырэктараў арганізатараў вытворчых нарад у саўгаса

1) Прызначэньне арганізатара вытворчых нарад члена рабачкому памоцнікам дырэктара па рэалізацыі прапаноў рабочых мае мэтай:

а) Забясьпечыць шырокае разьвіцьцё і найбольш поўнае выкарыстаньне творчай вытворчай ініцыятывы рабочых мас, у прыватнасьці, вынаходства і хутчэйшага правядзеньня ў жыцьцё прапаноў вытворчых нарад, а таксама вынаходак і прапаноў асобных рабочых;

б) Стварыць лепшыя ўмовы для сваечасовай мабілізацыі рабочых мас на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, для арганізацыі барацьбы мас з бесплянавасьцю і ўсякай дэзарганізацыяй вытворчасьці; для разгортваньня масавага рацыяналізатарскага руху сярод рабочых;

в) Забясьпечыць лепшыя ўмовы для разьвіцьця сацспаборніцтва, ударніцтва і лепшай арганізацыі работы вытворчых нарад;

г) Забясьпечыць лепшую арганізацыю кантролю рабочых за ходам і кіраваньнем вытворчасьці.

2) Арганізатар вытворчых нарад пам дырэктара вылучаецца рабочым камітэта саўгасаў на пэрыяд яго поўнамоцтваў, я член рабачкому і прызначаецца на па саду пам. дырэктара распараджэньне дырэктара саўгасу.

УВАГА: На пасаду пам. дырэ тара па вытвор. нарад. у саўга сах Саюзсахару вылучаец старшыня вытворчай нарад цэнтральнага саўгасу, камбінат на яго ўскладаецца кіраўніцт і жывы інструктаж вытворчы нарадамі ва ўсіх саўгасах ка бінату, а таксама ён адказва за поўнае і сваечасовае вы кананьне прапаноў П. С. і асо ных рабочых ва ўсіх саўгас камбінату.

3) Датэрміновае аслабаненьне яго пасады пам. дырэктара можа быць ворана па прапанове рабачкому ці згодзе дырэктара з рабачкомам. У в падку невыкананьня пам. дырэктара ускладзеных на яго абавязкаў па адміні

рацыйнай лініі, дырэктар мае права ва ўстаноўленым парадку часова адхіліць яго ад пасады як пам. дырэктара ўперад разбору справы. Пытаньне аб далейшай рабоце пам. дырэктара вырашаецца па згодзе паміж дырэктарам і рабачкомам. Пры недасягненьні згоды, пытаньне пераносіцца на вырашэньне трэсту і адпаведнай прафсаюзнай арганізацыі. Рабочы камітэт мае права ў любы момант адклікаць пам. дырэктара з гэтай пасады, замяніўшы яго адначасова па пасадзе арганізатара вытворчай нарады другой асобай, членам рабачкому

**Правы і абавязкі пам. дырэктара**

1) Арганізатар вытворчай нарады, як член рабачкому, арганізуе пад кіраўніцтвам рабочага камітэту і з поўнай справаздачнасьцю перад ім усю масавую эканомработу ў саўгасе, ён жа зьяўляецца старшынёй агульна-саўгаскай вытворчай нарады.

Загрузка яго другой (акрамя масавай эканомработы) сталай работай, як напрыклад па РКК ці культасьветработай, не дапушчаецца. Як пам. дырэктара, ён падпарадкаваны непасрэдна дырэктару саўгасу і нясе перад ім адказнасьць за арганізацыю праз апарат саўгасаў усей справы прапрацойкі, вучоту і рэалізацыі прапаноў, уносімых вытворчымі нарадамі, камісіямі і асобнымі рабочымі служачымі і спэцыялістымі ў парадку самадзейнай работы.

2) Даручэньне пам. дырэктару якіх-небудзь адміністрацыйных функцый, не прадугледжаных гэтым палажэньнем, не дапушчаецца, у прыватнасьці, не дапушчаецца ўскладаньне на яго абавязкаў дырэктара ці яго намесьніка і другіх памоцнікаў, не дапушчаецца яму даручэньне абавязкаў прадстаўніка дырэкцыі саўгасу па пытаньнях, якія не адносяцца да кола яго дзейнасьці, пам. дырэктар па рабоце в. н. ня мае спэцыяльнага апарату, а карыстаецца апаратам саўгасу. Распараджэньні пам. дырэктара, якія ўваходзяць у кола яго абавязкаў, для ўсіх работнікаў саўгасу абавязковы і могуць быць адменены дырэктарам саўгасу ці асобай яго замяняючай.

3) Аплата пам. дырэктара вытвараецца за кошт саўгасаў у разьмеры устаноўленым для старшыні рабачкому, але ня ніжэй чым атрымоўваў, працуючы на вытворчасьці.

4) Арганізатар вытворчай нарады — пам. дырэктара выконвае наступныя функцыі:

а) Арганізуе і кіруе работай агульна-саўгаскіх брыгадных В. Н., а таксама працуе па вылучэньні рабочых на адміністрацыйна-гаспадарчыя пасады.

б) Прымае меры да своечасовага і поўнага правядзяньня ў жыцьцё прапаноў В. Н. і асобных рабочых; устанаўлівае тэрміны за іх выканаьнем, наглядае за тым, каб прапановы не адхіляліся бяз уважлівых прычын.

в) Арганізуе вучот прапаноў і іх эканамічную эфэктнасьць; кантроль за прахаджэньнем прапаноў; сыстэматычную прапрацоўку іх у адпаведных частках апарату саўгасу (бюро рацыяналізацыі ТНБ і інш.), уключае ў плян рацыяналізацыі ўсе мэтазгодныя прапановы і вынаходства, якія патрабуюць больш-менш буйных затрат сродкаў.

г) Забясьпечвае ўмовы для разьвіцьця сацспаборніцтва і ўдарнага руху і арганізуе барацьбу з затрудненьнямі, тармазамі, перашкаджаючымі іх разьвіцьцю.

д) Арганізуе ўдзел масы ў давядзеньні прамфінпляну да рабочага месца і разьвёрсткі, канкрэтных вытворчых паказчыкаў для сацспаборніцтва, уцягваючы рабочыя масы ў работу плянавага бюро і бюро рацыяналізацыі.

е) Арганізуе ў саўгасе ячэйкі вынаходцаў, рацыяналізатарскія групы і дапамагае шырокаму іх разгортваньню дзейнасьці, арганізуе работу па абмену вытворчым вопытам і дасягненьнямі з другімі саўгасамі

ж) Арганізуе работу ствараемых у саўгасах ЧКК.

з) Арганізуе вучот рабочых, якія праяўляюць творчую вытворчую самадзейнасьць і арганізатарскія здольнасьці для вылучэньня ва ўстаноўленым парадку на адміністрацыйна-гаспадарчую работу.

і) Удзельнічае асабіста ў рабоце тэхнічных нарад і ўцягвае ў работу гэтых нарад рабочых актывістых.

Пам. дырэктару павінен быць забясьпечаны ўдзел ва ўсіх нарадах дырэктараў склікаемых трэстам і пашыранага Праў-

леньня трэсту, калі абгавараваецца прамфінплян саўгасаў.

Пам. дырэктара прымае меры да таго, каб у прамфінплянах былі вучцяны дастатковыя асыгнаваньні на выкананьне прапаноў рабочых і спэцыялістых, сачыць за тым, каб у фонды: вынаходства, сацспаборніцтва, вытворчай нарады сваечасова і поўнасьцю адлічваліся б належныя сумы;

к) Пам. дырэктара зьяўляецца распарадчыкам усіх сродкаў, адлічваемых у фонд садзейнічаньня вынаходству, прэміраваняя за лепшыя прапановы вытворчых дасягненьняў і за дасягненьні па сацспаборніцтву і па вытворчай асьвеце, а таксама ўдзельнічае ў разьмяркаваньні і наглядзе за выкарыстаньнем сродкаў асыгнаваных па прамфінпляну на рацыяналізацыю. Вызначэньне разьмераў адлічэньняў у фонды па прэміраваньні разьмераў прэмій за прынятыя прапановы і дасягненьні, вытвараецца ім па ўзгадненьні з дырэктарам саўгасу.

л) Пам. дырэктара па В. Н. зьяўляецца старшынёй камісіі садзейнічаньня вынаходству. Усе вынаходствы павінны паступаць непасрэдна да яго за прасоўваньне вынаходак і за работу камісіі садзейнічаньня вынаходству пам. дырэктара рэгулярна адлічваецца перад рабочай масай і перад дырэктарам саўгасу.

## 3) Аб мабілізацыі сродак у касы ашчаднасьці

### а) Усім райкомам саюзу

Індустрыялізацыя краіны, пераход сялянскай гаспадаркі на новыя сацыялістычныя рэйкі і выканьне 5-ці годкі ў 4 гады, ставяць перад рабочай клясай і ўсей грамадзкасьцю вялізарную задачу ў справе забесьпячэньня будаўніцтва неабходнымі фінансавымі сродкамі.

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум БРК саюзу заключыў з Галоўнай Касай Ашчаднасьці дагавор, які мае надзвычайнае палітычнае значэньне, на ўцягненьне ў ашчадкасы 1.000.000 рублёў-як сярод членаў н/саюзу, гэтак сама і сіламі членаў саюзу сярод сялянства на працягу 3-х месяцаў (сьнежань, студзень, люты). (Дагавор па гэтым пытаньні глядзі ў наступным нумары газэты „Сельгасрабочы Бел.“ за 7/XII г.г.).

Паведамляючы Вам аб гэтым, Прэзыдыум БРК прапануе зараз жа разгарнуць шырокую растлумачальную работу сярод членаў саюзу і прыступіць да практычнага выкананьня дагавору з Галоўнай Касай Ашчаднасьці. Згодна разьвёрсткі па арганізацыі н/саюзу ў В/раёне павінна быць уцянута ў ашчадкасы*).... рублёў. Тэрмінова разьмяркуйце гэтую лічбу па нізовых ячэйках і арганізуйце рабочыя масы на датэрміновае выкананьне ўзятага н/саюзам абавязку па мабілізацыі фінансавых сродкаў,

*) Глядзі далучаемую разьвёрстку

Аб ходзе вярбоўкі сродкаў паведамляйце БРК 2 разы ў месяц. Першая інфармацыя па гэтым пытаньні чакаецца ад Вас 25-га сьнежня.

Заг. Арг. Сэктару
БРК Саюзу СГР **Сакевіч**

Сакратар **Юшкевіч**

### б) Кантрольныя лічбы па раёнах.

На уцягненьне сродак у касы ашчаднасьці сіламі Саюзу Сельгасрабочых на працягу сьнежня 1930 г., студзеня і лютага 1931 г.

| Раёны: | Рублёў: |
|---|---|
| 1. Барысаўскі | 22.000 |
| 2. Смалявіцкі | 14.000 |
| 3. Койданаўскі | 14.000 |
| 4. Бягомльскі | 7.000 |
| 4. Халопініцкі | 6 000 |
| 6. Плешчаніцкі | 8.000 |
| 7. Лагойскі | 10.000 |
| 8. Заслаўскі | 15.000 |
| 9. Астр.-Гарадзецкі | 7.000 |
| 10. Самахвалаўскі | 22.000 |
| 11. Сьмілаўскі | 14.000 |
| 12. Чэрвеньскі | 14.000 |
| 13. Бярэзінскі | 8.000 |
| 14. Уздзянскі | 14.000 |
| 15. Пухавіцкі | 17.000 |
| 16. Капыльскі | 13.000 |
| 17. Грэскі | 9.000 |
| 18. Менск і прыгарад | 42.000 |
| 19. Чырвона-Слабодскі | 12.000 |
| 20. Слуцкі | 11.000 |

| Раёны: | Рублёў: |
|---|---|
| 21. Стара-Дарожкі | 6.000 |
| 22. Асіпавіцкі | 11.000 |
| 23. Сьвіслацкі | 10.000 |
| 24. Клічаўскі | 8.000 |
| 25. Старобінскі | 10.000 |
| 26. Любанскі | 9 000 |
| 27. Глускі | 12.000 |
| 28. Бабруйскі | 19.000 |
| 29. Рагачоўскі | 12.000 |
| 30 Парыцкі | 6.000 |
| 31. Жлобінскі | 10.000 |
| 32. Віцебскі | 22.000 |
| 33. Межанскі | 7.000 |
| 34. Сіроцінскі | 5.000 |
| 35. Гарадокскі | 7.000 |
| 36. Суражскі | 10.000 |
| 37. Бешенковіцкі | 9.000 |
| 38. Высочанскі | 6.000 |
| 39. Ліозьнянскі | 7.000 |
| 40. Чашніцкі | 7.000 |
| 41. Сененскі | 13.000 |
| 42. Гомельскі | 26 000 |
| 43. Будакашалёўскі | 6.000 |
| 44. Чэчэрскі | 6.000 |
| 45. Уваравіцкі | 9.000 |
| 46. Веткаўскі | 13.000 |
| 47. Рэчыцкі | 8.000 |
| 48. Церахаўскі | 11.000 |
| 49. Хойнікскі | 12.000 |
| 50. Лоеўскі | 7.000 |
| 51. Брагінскі | 8.000 |
| 52. Камарынскі | 5.000 |
| 53. Магілёўскі | 16.000 |
| 54. Белыніцкі | 6.000 |
| 55. Шклоўскі | 6.000 |
| 56. Лупалаўскі | 7.000 |
| 57. Чаўскі | 9.000 |
| 58. Чэрыкаўскі | 5.000 |
| 59. Клімавіцкі | 10.000 |
| 60. Чачэвіцкі | 6.000 |
| 61. Быхаўскі | 10.000 |
| 62. Журавіцкі | 5.000 |
| 63. Кармянскі | 5.000 |
| 64. Прапойскі | 5.000 |
| 65. Краснапольскі | 7.000 |
| 66. Касьцюковіцкі | 10.000 |
| 67. Хоцімскі | 5.000 |
| 68. Крычэўскі | 5.000 |
| 69. Жыткавіцкі | 10.000 |
| 70. Петрыкаўскі | 13.000 |
| 71. Капаткевіцкі | 10.000 |
| 72. Азарыцкі | 5.000 |
| 73. Калінкавіцкі | 12.000 |
| 74. Тураўскі | 5.000 |

| Раёны: | Рублёў: |
|---|---|
| 75. Лельчыцкі | 7.000 |
| 76. Каролінскі | 6.000 |
| 77 Нараўлянскі | 7.000 |
| 78. Юравіцкі | 5.000 |
| 79. Мозыр і прыгарад | 5.000 |
| 80. Багушэйскі | 5.000 |
| 81. Чарэйскі | 5.000 |
| 82. Талочынскі | 11.000 |
| 83. Коханаўскі | 10.000 |
| 84. Аршанскі | 18 000 |
| 85. Дубровенскі | 12.000 |
| 86. Ляднянскі | 4 000 |
| 87. Крупскі | 8 000 |
| 88. Круглянскі | 5.000 |
| 89. Копыскі | 6.000 |
| 90. Горацкі | 20.000 |
| 91. Дрыбінскі | 5.000 |
| 92. Раснянскі | 4.000 |
| 93. Мсьціслаўскі | 20.000 |
| 94. Полацкі | 12.000 |
| 95. Дрысенскі | 7 000 |
| 96. Асьвейскі | 5.000 |
| 97. Расонскі | 8.000 |
| 98. Валынецкі | 8.000 |
| 99. Ветрынскі | 10.000 |
| 100. Ушацкі | 5.000 |
| 101. Ульскі | 6.000 |
| 102. Лепельскі | 8.000 |

**УСЯГО 1.000.000 руб.**

## в) ІНСТРУКЦЫЯ

**аб парадку выкананьня сацдагавору Саюзу Сельгаслесрабочых і Кіраўніцтва Ашчадкасамі БССР.**

1. Раёныя аддзяленьні Саюзу Сельгаслесраб. разам з райашчадкасамі вытвараюць прымацаваньне рабачкомаў раёнаў к асобным бліжэйшым ашчадкасам.

2. Кожны рабачком асобнай пастановай на сваім пасяджэньні вылучае адказнага сябра, які прымацоўваецца да ашчадкасы і на якога ўскладаецца практычная праца зьвязаная з правядзеньнем сацдагавору.

УВАГА: Копіі пастановы аб вылучаным упаўнаважаным рабачком перадае ашчадкасе.

3. Кожны рабачком выдзяляе 10 індывідуальных вярбоўшчыкоў.

4. На абавязку вярбоўшчыкаў ляжыць і індывідуальная вярбоўка ўклад-

чыкаў у ашчадкасы сярод сялян і прыём ад іх першапачатковых узносаў.

5. Актывісты вылучэнцы для індывідуальнай вярбоўкі сялян у ашчадкасы асвабаняюцца на час дзейнасьці сацдагавору ад іншай саюзнай нагрузкі.

6. Праз упаўнаважаных рабачкомаў ашчадкасы ажыцьцяўляюць кіраўніцтва практычнай працай працы рабачкомаў у галіне ўцягненьня сялянскіх укладаў забясьпечваючы іх апэрацыйным матар'ялам, а таксама праводзяць інструктаваньне індывідуальных вярбоўшчыкоў.

**г) Парадак снабжэньня рабачкому і вярбоўшчыкаў апэрацыйным матар'ялам і формы вучоту.**

1) Прадстаўніку рабачкому райашчадкаса, альбо гаркаса выдае на рукі пад расьпіску: талёныя кніжкі № 31 па аднэй кніжцы на кожнага вярбоўшчыка, а таксама патрэбную колькасьць прыбытковых ордэроу ф. № 7.

2) Кожная талёная кніжка ашчадкасай пранумэроўваецца, прашнуроўваецца і прапечатваецца сургучнай пячаткай.

3) Вярбоўшчык атрымаўшы ад рабачкому талёную кніжку ф. № 31 і прыбытковыя ордэры ф. № 7, прымае грошы ад укладчыкаў і выдае квіток (ордэр) па ф. № 31, які складаецца вярбоўшчыкам пад капірку ў 2-х паасобніках, з якіх адзін застаецца ў кніжцы і запаўняе ордэр ф. № 6 на якім адбірае образ подпісу ўкладчыка (у выпадку калі ўкладчык няпісьменны на тым мейсцы пішацца „няпісьменны").

4) У канцы дню вярбоўшчык у вызначаныя дні, альбо па ўмове з рабачкомам і ашчадкасай, калі німа магчымасьці штодзёна, сабраные грошы перадае ў ашчадкасу разам з запоўненымі прыбытковымі ордэрамі ф. № 7, але ня менш 2-х разоў ў нядзелю.

5) Вярбоўшчык адчытваецца аб здадзеных грошах ня менш аднаго разу ў тыдзень, адказным за атрыманыя матар'ялы ад ашчадкасы зьяўляецца рабачком.

6) Ашчадкаса атрымаўшы прыбытковыя ордэры ф. № 7 заводзіць асабовыя рахункі на кожную асобу і выпісвае ашчадкніжкі, якія здае асобе здаўшай грошы для раздачы ўкладчыкам, і апроч таго робіць адзнаку ў асабовым рахунку аб паступіўшых агульных сумах такога-та вярбоўшчыка.

7) Пры яўцы ўкладчыка ў ашчадкасы са грашыма альбо пры дадатковым узносе ашчадкаса адбірае абразец подпісу на асабістым рахунку і зьвярае яго з подпісам на ордэры ф. № 7.

8) Ні воднага квітку ў талёнай кніжцы вярбоўшчыка на можа ня хапаць, па гэтаму калі вярбоўшчык выпадкова папсаваў квіток (напрыклад неправідлова яго запоўніў) ён не павінен вырываць яго, а застаўляе папсаваны квіток ў кніжцы, перакрэсьлівае яго і пераходзіць да запаўненьня наступнага чарговага квітку.

9) Пры скарыстаньні вярбоўшчыкам поўнасьцью квітковай кніжцы ён абавязан зьвярнуць Рабачкому вокладкі кніжак з пячаткай і атрымлівае ўзамен новую,

10) Рабачкомы вокладкі выкарыстаных квітковых кніжак перадаюць у ашчадкасу, якая сьпісвае іх з рахунку рабачкому і застаўляе хаваць у сябе.

**Парадак і тэрміны прадстаўленьня зьвестак.**

11) Нізавыя ашчадкасы, да якіх прымацаваны асобныя рабачкомы; прадстаўляюць у раёныя касы 2 разы ў м-ц к 16 і 2 кожнага м—цу зьвесткі аб колькасьці ўцягнутых вярбоўшчыкамі ўкладчыкау.

УВАГА: Зьвесткі гэтыя ашчадкасы складаюць на аснове запісаў у сшытку вучоту дзейнасьці рабачкому па далучанай форме.

12) Гэтыя-жа зьвесткі рабачкомы прадстаўляюць два разы ў м-ц у тыя-ж тэрміны (к 16 і 2-му) у райаддзяленьні саюзу працасьветы.

УВАГА: Зьвесткі гэтыя рабачкомы складаюць на падставе даных рахункаў асобных вярбоўшчыкаў.

13) Райкасы прадстаўляюць зьвесткі 2 разы ў м-ц к 20 і 15 числу ў Кіраўніцтва ашчадкасамі БССР.

14) У тыя-жа тэрміны (к 20 і 15 числу) райаддзяленьні прадстаўляюць зьвесткі ў ЦП Саюзу, без пералічэньняў прозьвішча вярбоўшчыкаў, а паказваючы агульную лічбу рабачкомаў і колькасьць вярбоўшчыкаў, якіх зьвесткі датычацца.

15) Па сканчэньні дзейнасьці дагавору раёныя касы прадстаўляюць у Кіраўніцтва зьвесткі за ўвесь час кампаніі.

**Праверка расходу апэрацыйнага матар'ялу.**

16) У канцы кампаніі рабачкомы адбіраюць ад усіх індывідуальных вярбоўшчыкаў усе астаўшыеся ў іх на руках нявыкарыстаныя апэрацыйныя дакумэнты: карткі асабовых рахункаў і квітковыя кніжкі, а таксама вокладкі выкарыстаных кніжак і прадстаўляюць іх у ашчадкасы, адлічыўшы перад імі за ўсе атрыманыя за час кампаніі апэрацыйныя матар'ялы.

17) Ашчадкасы сачаць па рахунках асобных рабачкомаў, за тым каб увесь нявыкарыстаны апэрацыйны матар'ял, а таксама вокладкі з пячаткай выкарыстаных талёных кніжак, паступалі назад у ашчадкасу.

18) Праверка выкарыстаных талёных кніжак утвараецца наступным чынам: калі талёная кніжка выкарыстана поўнасьцю, дык зьвяраюцца, ці маюцца пры асабовых рахунках усе талёны гэтай кніжкі (першы і другія экз.) калі талёная кніжка выкарыстана часткова, дык выяўляецца, ці маюцца прымацаваньні да асабовых рахункаў нехапаючыя талёны кніжкі.

Зацьверджана Прэзыдыумам ЦК Саюзу СГЛР 12-та Ліпеня 1930 г.

## 4) ПАЛАЖЭНЬНЕ

### аб інжэнэрна-тэхнічных сэкцыях саюзу сельгаспадарчых і лясных рабочых.

1. Інжэнерна-тэхнічная сэкцыя (І. Т. С.) аб"ядная інжэнэрна-тэхнічных работнікаў па сельскай і лясной гаспадарцы—членаў саюзу, і, будучы састаўной часткай саюзу, вядзе ўнутры яго сваю работу ў межах статуту Саюзу і гэтага палажэньня.

2. Маючы сваей канчатковай мэтай ажыцьцяўленьне сацыялізму, сумесна з рабочай клясай і пад кіраўніцтвам УсеКП(б), праз дыктатуру пралетарыяту і бліжэйшыя задачы—сацыялістычную рэканструкцыю сельскай і лясной гаспадаркі, І. Т. С. вакол гэтай мэты аб"ядноўваюць шырокія масы ІТР і ў аснову сваей работы ставіць наступнае:

а) Актыўны і творчы ўдзел у сацыялістычнай перабудове, разьвіцьці і ўздыму на вышэйшую тэхнічную ступень сельскай, лясной і ўсей народнай гаспадаркі, каб дагнаць і перагнаць перадавыя ў тэхнічнай адносіне капіталістычныя краіны і забясьпечаньня актыўнага ўдзелу ІТР у ўзмацненьні і разьвіцьці будаўніцтва саўгасаў, калгасаў, МТС, аграіндустрыяльных камбінатаў, леспрамгасаў і г. д.

б) Разьвіцьцё рэвалюцыйнай пралетарска-клясавай сьвядомасьці ІТР і падняцьце іх палітычна-культурнага і прафэсыйнага ўзроўню, падняцьце кваліфікацыі і перакваліфікацыі ІТР адпаведна запатрабаваньням і задачам сацыялістычнай перабудовы сельскай і лясной гаспадаркі,

Стварэньне і ўдзел у рабоце навукова-тэхнічных і грамадзкіх арганізацыях, садзейнічаючых сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай і лясной гаспадаркі.

в) Актыўны ўдзел у рабоце па стварэньню новых пралетарскіх рабочых і інжэнэрна-тэхнічных кадраў для вытворчасьці і навукова-дасьледчых і навуковых устаноў і арганізацый.

г) Бязлітасную барацьбу з шкодніцкімі элементамі ў асяродку ІТР, папярэджваючы шкодніцтва і рашучую барацьбу з апалітычнасьцю і нейтральнасьцю ІТР.

д) Удзел у рабоце саюзу, асабліва ў яго вытворча-эканамічнай рабоце і культурна-асьветнай рабоце.

е) Уздым вытворчых ведаў рабочых мас, калгасьнікаў і бедняцка-серадняцкага насельніцтва.

ж) Садзейнічаньне дзяржаўным і гаспадарчымі ворганам у справе рацыянальнага скарыстаньня інжэнэрна-тэхнічных сіл.

з) Ахова матар"яльных, прававых бытавых і культурных інтарэсаў сваіх членаў.

3. Для выкананьня сваіх задач ІТС, арганізоўвае і прыўлекае шырокія масы ІТР, асноўваючы сваю работу на мэтадах

сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, і разготваючы шырокае дабраахвотніцтва сярод ІТР:

а) Удзельнічае ў прапрацоўцы кантрольных лічбаў, прамфінплянаў, пытаньнях палепшаньня і рацыяналізацыі вытворчасьці, кіраваньня, падняцьці вытворчасьці працы, палепшаньню якасьці і зьніжэньні сабекаштоўнасьці прадукцыі, ўнедраючы ў вытворчасьць навейшых дасягненьняў навукі і тэхнікі і арганізоўвая шырокія масы ІТР вакол выкананьня 5-ці годкі ў 4-ры гады на аснове генэральнай лініі Партыі і праз уцягненьня С/г і Лясных рабочых, калгасьнікаў і ІТР у сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, выкарыстоўваючы таксама шэфства калектыву ІТР па лініі грамадзкага і навукова-тэхнічнага абслугоўваньня саўгасаў, леспрамгасаў, калгасаў, агроіндустрыяльных камбінатаў і г. д.

б) У мэтах хутчэйшага правядзеньня сацыялістычнай рэканструкцыі і ўздыму сельскай і лясной гаспадаркі, ўдзельнічая ў рабоце вытворчых нарад і канфэрэнцый. ВКК прапрацоўвае пытаньня, зьвязаныя з рацыяналізацыяй вытворчасьці, аказвая садзейнічаньне рабочаму вынаходзтву і вынаходзтву сярод ІТР і калгасьнікаў, садзейнічае пабудове навукова-дасьледчай рабоце ў адпаведнасьці з задачамі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай і лясной гаспадаркі.

в) Праз ЦК Саюзу і УсеМБІТ, выкарыстоўвая навуковы і тэхнічны вопыт у галіне сельскай і лесной гаспадаркі замежных інжэнэраў і тэхнікаў.

г) Вылучая перадавых ІТР—грамадзкіх працаўнікоў у якасьці кандыдатаў на адказныя пасады ў саюзе, і праз саюз на кіруючыя адміністрацыйна-тэхнічныя пасады ў прадпрыемствах, ўстановах на навукова дасьледчую і педагагічную работу.

д) Высоўвая сваіх кандыдатаў у паседжаньні Народных судоў, арганізоўвая тэхнічную экспэртызу і юрыдычную дапамогу сваім членам, назіраючы за выкананьнем К. З. о Т., удзельнічая ў заключэньні і наглядзе за выкананьнем працдагавароў па адносіне да ІТР, удзельнічая ад імя саюзу ў вырашэньні канфліктаў членаў сэкцыі з гаспадарчымі ворганамі і прыватнымі прадпрынаймальнікамі і выдзеляе прадстаўнікоў на паседжаньне РКК па справах членаў сэкцыі.

е) Праз саюз уваходзяць у дагаворанасьць з дзяржаўнымі і гаспадарчымі органамі па пытаньням палепшаньня працы і быта І. Т. Р.

ж) Праводзіць абсьледваньне матар'яльных, прававых і інш. умоў працы і быту ІТР.

з) Удзельнічае ў арганізацыі і рабоце Інстытутаў удасканаленьня ІТР, міжсэкцыйных клюбаў ІТР, арганізоўвая свае клюбы і сэкцыі пры рабочых клюбах, касы Ўзаемадапамогі, курсы, санаторыі, дамы адпачынку і г. д.

4. Уся работа ІТР працякае пад агульным кіраўніцтвам саюзу і Міжсаюзных ворганаў. Кіраўніцтва саюзу адбіваецца:

а) У накіраваньні ўсей работы сэкцыі, у адпаведнасьці з лініяй саюзу (зацьверджаньне і праверка выкананьня пастаноў сэкцыйных з'ездаў, канфэрэнцый і складу абраных бюро, прынцыповых рашэньняў органаў сэкцый, плянаў работ і каштарысаў, заслухоўваньне справаздачных дакладаў сэкцый і пастаноўка дакладаў саюзных органаў на сэкцыйных з'ездах; інструктаваньне і абсьледваньне органаў сэкцыі; ўказаньня па асобным прынцыповым пытаньням).

б) У забясьпячэньні сэкцый сродкамі і сіламі, патрэбнымі для яе работы.

в) У стварэньні спрыяючых умоў для разьвіцьця ініцыятывы і работы сэкцый.

5. Сэкцыйныя органы ствараюцца ў складзе адпаведных саюзных органаў. Органы сэкцыі ў сваей рабоце непасрэдна зьвязаны з Прэзыдыумам адпаведных органаў саюзу і зносяцца самастойна з іх функцыянальнымі аддзеламі. У выпадку нязгоднасьці органаў сэкцыі з рашэньнем саюзнага органу ў складзе якога яны знаходзяцца, яны ў праве абскардзіць рашэньне ў вышэйстаячы ворган саюзу. У выпадку разнагалосься паміж органамі саюзу і сэкцый, разнагалосься вырашаюцца вышэйстаячымі саюзнымі і сэкцыйнымі ворганамі.

6. Пастановы сэкцыйнага органу, зацьверджаныя адпаведным саюзным органам, абавязковы для ўсіх ніжэйстаячых саюзных і сэкцыйных органаў.

7. Ўсе пытаньні якія датычацца сэкцыі ці яе членаў і паступаючыя на разгляд саюзных органаў, вырашаюцца

апошнімі пасьля разгляду іх з належачым сэкцыйным органам і пры удзелу прадстаўніка апошняга.

### Склад І. Т. С.

8. Членамі І.Т.С· састаяць члены саюзу С.Г.Л Р.

а) Асобы скончыўшыя вышэйшыя ці сярэдні́я спэцыяльна-тэхнічныя навуковыя ўстановы, працуючыя на вытворчасьці ці выконваючыя інжэнерна-тэхнічную працу ў ўстанове;

б) Асобы якія не атрымалі, ці няскончыўшыя спэцыяльнай адукацыі, але выконваючыя інжэнерна-тэхнічную і плянава-эканамічную работу;

в) Дырэктары саўгасаў, леспрамгасаў, М.Т.С. і малодшы тэхнічны пэрсанал гэтых прадпрыемстваў.

9. Рэгістрацыя ў члены І.Т.С выконваецца мясцовымі бюро на аснове сьпіску пасад, распрацоўваемага Ц.Б. і зацьверджанага Ц.К. і Усе М.Б.І.Т.

УВАГА: І.Т.Р., члены саюзу, павінны састаяць у сэкцыі і адмовіўшыяся ад рэгістрацыі выбываюць з членаў саюзу.

10. Члены І.Т.С. выбываюць з сэкцыі пры выбыцьці з членаў саюзу ці пры пераходзе на працу, выкананьне якой не абязвае састаяць у І.Т.С. Беспрацоўныя І.Т.Р. працягваюць заставацца членамі І.Т.С. на ўвесь час беспрацоўя.

УВАГА: Члены І.Т.С., пераходзячыя на выбарныя пасады, не зьвязаныя з выкананьнем інжэнерна-тэхнічных абавязкаў, захоўваюць членства І.Т.С. да канца сваіх паўнамоцтваў.

11. Пытаньня аб выключэньні членаў І.Т.С. з саюзу, папярэдня разглядаюцца сэкцыяй. Сэкцыя можа паставіць пытаньне перад саюзным органам аб выключэньні І.Т.Р. з членаў саюзу.

### Органы ІТС

12. Ўсесаюзны: а) Ўсесаюзныя з'езды спэцыялістых сельскай ці лясной гаспадаркі зьяўляюцца вышэйшым органам, кіруючым і напраўляючым дзейнасьць І.Т.С.; б) вядзеньню з'езду падлягае вырашэньне прынцыповых і важнейшых пытаньняў, ўваходзячых у кампэнтэнцыю сэкцыі і абраньня Цэнтральнага бюро; в) чарговы з'езд склікаецца Цэнтральным бюро па ўзгадненьню з Ц.К. саюзу і ЎсеМ Б.І.Т.

Апрача чарговага могуць склікацца надзвычайныя з'езды па рашэньню Ц.К. Саюзу, Усе М.Б.І.Т., Ц.Б. ці па запатрабаваньню ня менш аднэй трэці членаў І.Т.С.

13. Цэнтральнае Бюро: а) Ц.Б. выбіраецца Ўсесаюзным з,ездам у колькасьці членаў і кандыдатаў, па пастанове з'езду, тэрмінам да другога з'езду; б) Ц.Б. зьяўляецца вышэйшым кіруючым органам І.Т.С. паміж з'ездамі і за сваю дзейнасьць адказвае перад з'ездам, Ц.К. Саюзу і Усе М.Б.І.Т; в) Ц.Б. абірае з свайго асяродку Прэзыдыум, выконваючы работу Ц.Б. у тэрмін паміж Пленумамі Ц.Б.; Пленумы Ц.Б. склікаюцца Прэзыдыумамі па меры патрэбнасьці не радзей чым 2 разы ў год.

Прэзыдыум Ц.Б. зьяўляецца вышэйшым рабочым органам І.Т.С., кіруючым работай інжэнерна-тэхнічных арганізацый паміж Пленумамі Ц.Б.

Прэзыдыум абірае з свайго асяродку Старшыню і 2-х сэкратароў. Вядзе апэрацыйную работу па кіраўніцтву сэкцыямі, выдаткуе паступаючыя ад Ц.К. саюзу сродкі на работу сярод спэцыялістых па зацьверджаным Ц.К. каштарысам і ў сваёй дзейнасьці нясе адказнасьць за работу перад Ц.К. Саюзу і Цэнтральным Бюро сэкцыі.

14. Рэспубліканск. і раённыя канфэрэнцыі І.Т.С. працуюць на аснове пастановы Ўсесаюзнага з'езду Інжэнерна-Тэхнічных Сэкцыяў і Міжсэкцыйнага з'езду І.Т.С., адпаведнага М Б.І.Т. і дырэктыў адпаведнага саюзнага органа. Канфэрэнцыі вырашаюць важнейшыя пытаньні сэкцыйнай работы прымяніцельна да свайго аб'яднаньня, намячаюць агульны плян работы бюро, абіраюць бюро ў колькасьці членаў і кандыдатаў, апрэдзяляемых канфэрэнцыяй, якое абірае з свайго складу Прэзыдыум у колькасьці 7-9 чалавек; б) чарговыя канфэрэнцыі склікаюцца адпаведнымі бюро. Тэрмін скліканьня, норма прадстаўніцтва, парадак выбару дэлегатаў, абвестка дню узгадняюцца з М.Б.І.Т. і зацьверджаюцца вышэйстаячым сэкцыйным органам і Праўленьнем саюзу.

Апрача чарговых могуць склікацца канфэрэнцыі па рашэньню Праўленьня саюзу, вышэйстаячага органу І.Т.С. ці М.Б.І.Т. і па запатрабаваньню аднэй трэці членаў І.Т.С. дадзенага аб'яднаньня,

15. Бюро І.Т.С: а) Рэспубліканск., краявыя і абласныя бюро працуючы пад непасрэдным кіраўніцтвам адпаведных саюзных арганізацый і Ц.Б., устанаўліваюць рэгулярную сувязь з ніжэйстаячай сэкцыйнай сеткай, інструктуюць і кіруюць ўсей яе практычнай работай і вядуць бягучую работу на аснове статуту саюзу і гэтага палажэньня; б) Рэспубліканскія краявыя і абласныя бюро і іх Прэзыдыум нясуць адказнасьць за сваю работу перад адпаведнай канфэрэнцыяй І.Т.Р., Праўленьнем саюзу, Ц.Б. і М.Б.І.Т.

16. Раённыя бюро: а) працуюць пад непасрэдным кіраўніцтвам адпаведнага саюзнага органа, Рэспубліканскага, краявога і абласнога бюро, устанаўлівае рэгулярную сувязь з бюро і ўпаўнаважанымі калектыву, інструктуюць і кіруюць ўсей іх бягучай работай; б) нясуць адказнасьць за сваю работу перад сэкцыйнай канфэрэнцыяй І.Т.Р., райкомам саюзу, рэспубліканскім, краявым, абласным бюро І.Т.С., М.Б.І.Т.

УВАГА: І) Раённыя бюро І.Т.С. выбіраюцца толькі ў тых раёнах, дзе маюцца раённыя органы саюзу. Раённыя бюро абіраюцца ў складзе 3-5 чалавек і 2-х кандыдатаў, і з свайго складу абіраюць Старшыню іСэкратара, не абіраючы Прэзыдыуму.

УВАГА: 2) У асобных выпадках для абслугоўваньня спэцыялістых, знаходзячыхся пры участковых і цэхавых камітэтах саўгасаў і леспрамгасаў з склада бюро І.Т.С. пры рабачкоме выдзеляецца член гэтага бюро для абслугоўваньня паказаных спэцыялістых.

**Калектывы І.Т.С. у прадпрыемствах і ўстановах.**

17. На прадпрыемствах і ўстановах члены І.Т.С. складаюць калектыў, абіраючы мясцовае бюро І.Т.С. у складзе ад 3-5-ці чалавек членаў і 2-х кандыдатаў, на тэрмін , раўны тэрміну выбару групкомаў, рабачкомаў і мясцкомаў.

Калектывы налічваючыя больш 10-ці І.Т.Р. абіраюць бюро, а з 10 да 5 чалавек, але ня меньш, абіраюць Упаўнаважанага І.Т.Р., дзе німа па палажэньню Упаўнаважанага, абслугоўваюцца непасрэдна саюзным органам, у склад якога яны ўваходзяць.

18. Нізавыя сэкцыйныя органы (М.Б. Упаўнаважаныя) ствараюцца пры адпаведных саюзных органах-групкомах, рабачкомах саўгасаў, леспрамгасаў, машына-трактарных станцый, навукова-дасьледчых інстытутах і мясцкомах устаноў.

І.Т.Р працуючыя па за сельска-гаспадарчымі прадпрыемствамі (раённыя, участковыя, калгасна-каапэрацыйныя спэцыялістыя і працуючыя ў апэрацыйных і дасьледчых групах) аб'яднаюцца М.Б. Інжэнерна-тэхнічных сэкцый пры раённых камітэтах саюзу С.Г.Р., а дзе гэткіх німа, пры сельрабачкомах, прафкомах, распаложаных у раённым адміністрацыйным цэнтры.

19. Мясцовыя бюро выдзеляюць з свайго складу арганізатараў па асобным галінам работы, якія, арганізоўваючы дабраахвотніцтва сярод спэцыялістых на работу ў сэкцыях, прапрацоўваюць пры ўдзеле гэтых дабраахвотнікаў асобныя пытаньні і раздзелы сваей галіны.

Арганізатары выдзеляюца па наступным раздзелам работы:

а) Арганізатар сацспаборніцтва і ўдарніцтва які аб'яднае вакол сябе дабраахвотніцкі актыў, вядзе работу ў галіне прапрацоўкі прамфінпляну, соцспаборніцтва і ўдарніцтва спэцыялістых для выкананьня прамфінпляну 5 ці годкі ў 4-ры гады, рацыяналізацыі і вынаходзтву і барацьбе за паляпшаньне якасьці і зьніжэньня сабекошту.

б) Арганізатар па кадрах аб"яднае вакол сябе дабраахвотніц і актыў і прапрацоўвае пытаньні зьвязаныя з падрыхтоўкай кадраў, іх перакваліфікацыяй, рацыянальным разьмяшчэньні і г. д.

в) Арганізатар масавай палітыка-прасьвяцiцельнай работы сумесна з арганізаваным ім дабраахвотніцкім актывам, распрацоўвае пытаньні і праводзіць у жыцьцё мерапрыемствы зьвязаныя з палітычнай асьветай спэцыялістых масавымі кампаніямі і абслугоўваньнем культустаноў.

г) Арганізатар працы і быту вядзе работу па пытаньням аховы працы ІТР, сацыяльна-бытав. абслугоўваньню і г. д.

20. Асноўнымі задачамі мясцовага бюро (Упаўнаважанага) зьўляюцца: а) паляпшэньне работы сельска-гасцадарчай вытворчасьці; б) разьвіцьцё рэвалюцыйна-клясавай сявядомасьці сярод ІТР; в) культпраца сярод ІТР; в) ахова тарыфна-бытавых і прававых інтарэсаў ІТР.

21. Для выкананьня сваіх задач мясцовае бюро: а) абгаварвае важнейшыя пытаньні прадпрыемства, установы, як-та: прамфінплян, вытворчыя справаздачы, пяцігадовы плян рацыяналізацыі вытворчасьці і кіраваньня і г. д; б) уцягвае членаў калектыву ІТР у вытворча-эканамічную работу рабачкому, мясцкому, асабліва ў работу вытворчых нарад, камісій і ВКК; в) уцягвае ІТР і рабочых у сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, выпрацоўвае паказчыкі спаборніцтва, арганізуе вучот вынікаў спаборніцтва і ўдарніцтва г) уцягвае членаў калектыву ў культасьветную работу саюзу сярод рабочых, асабліва па вытворчаму выхаваньню і садзейнічае прасоўваньню ІТР і рабочых на больш адказную інж.-тэхн. работу; д) удзельнічае ў распрацоўцы і абгаварэньні калдагавору і сачыць за правядзеньнем у жыцьцё пастаноў Ураду і вышэйшых гаспадарчых органаў, аграждаючых трудавыя інтарэсы ІТР; е) удзельнічае ў справе ўкамплектаваньня штатаў ІТР; ж) уцягвае членаў калектыву ў актыўны ўдзел групавых агульных сходах рабочых, у агульную дзейнасьць рабачкому, мясцкому; з) прыцягвае членаў калектыву да ўдзелу ў рабоце камісіі па ахове працы, садзейнічая ёй па вышуканьню спосабаў і мерапрыемств палепшаньня ўмоў працы ўсіх работнікаў; і) садзейнічае павышэньню кваліфікацыі ІТР, шляхам арганізацыі лекцый, ўдзельнічая ў рабоце гаспадарчага воргану па арганізацыі тэхнічных бібліатэк, вытворчых экскурсій ІТР, па вылучэньню кандыдатаў для камандыраваньня на паўторныя курсы і г. д.: к) садзейнічая ўзмацненьню сярод членаў калектыву трудавой і праф. дысцыпліны; л) ставіць справаздачныя даклады аб рабоце калектыву на Паседжаньнях рабачкому, мясцкому і агульных сходах саюзу; м) праводзіць мерапрыемствы па ахопу сэкцыей ўсіх ІТР прадпрыемст. на аснове гэтага палажэньня; н) вядзе точны вучот членаў калектыву.

22. Прадстаўнік мясцовага бюро ці Упаўнаважаны ўдзельнічае ў паседжаньнях групкому, рабачкому, мясцкому.

Увага: Пытаньне, датычаючэяся Пленуму ІТС, рашаецца рабачкомам, мясцкомам, пасьля разгляду пытаньня бюро калектыву і пры абавязковым удзеле прадстаўніка мяйсцовага бюро ці ўпаўнаважанага.

23. Прадстаўнік мяйсцовага бюро ці ўпаўнаважаны прымае ўдзел у паседжаньнях РКК з правам дарадчага голасу па пытаньнях датычыхшыўся членаў сэкцыі.

24 Агульныя сходы членаў мясцовых сэкцый склікаюцца пад кіраўніцтвам адпаведнага саюзнага органу, мясцовым бюро, ці ўпаўнаважаным не радзей аднаго разу ў месяц на прадпрыемствах і установах і не радзей аднаго разу ў 2 м-цы ў раёнах.

25. Рашэньне калектыву і мясцовага бюро ўзгадняецца з рабачкомам—мясцкомам.

26. Арганізацыйныя выдаткі, зьвязаныя з работай мясцовага бюро, ці ўпаўнаважанага, пакрываюцца з сродак рабачкомаў, мясцкомаў, ўключаюцца ў агульны каштарыс рабачкому— мясцкому.

**Сродкі ІТС:**

27. ІТС мае асобны цэнтралізаваны сэкцыйны бюджэт, як частку саюзнага бюджэту, складаючагася з часткі саюзных узносаў членаў ІТС у разьмеры 50—75%.

Рэспубліканск. ІТС складе цэнтральныя каштарысы з учотам абслугоўваньня нізавой сэкцыйнай сеткі ІТС з учотам неабходнасьці адлічэньням на работу ЦБ вядомага проценту, ўстанаўліваемага ЦК і ЦБ.

28. Каштарысы ІТС зацьверджаюцца органамі саюзу. У каштарысы ўключаюцца выдаткі на арг. работу і на патрэбы членаў ІТС (культ. асьветныя, мед. дапамога юрыдычная дапамога і інш. У межах зацьверджаных каштарысаў сэкцыя выдаткуе сродкі самастойна.

Згодна: **Сакратар Б. Р. К. Саюзу Сельгасрабочых Юшкевіч.**

## 5) ПАСТАНОВА

**прэзыдыуму Беларуск. Рэспубл. Камітэту Саюзу СГЛР аб захаваньні 50% зарплаты за сямейнымі таварышамі, камандыраванымі на прафкурсы.**

На падставе дагаворанасьці з гаспадарчымі арганізацыямі захаваць за сямейнымі таварышамі, камандыраванымі на прафкурсы 50% сярэдняй зарплаты, кватэры і ільготы па атрыманьні з гаспадаркі прадуктаў спажываньня, пры ўмове калі апрача самаго курсанта больш у сямьі ня маецца сталага рабочага.

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар **Манжалей.**
Намесьнікі яго: **Лашкевіч, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 3642. Тыраж 1000 экз. Друкарня Менспраўдому.

